# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 32 (284) | ГОД VІ | БЕЛАСТОК 6 ЖНІЎНЯ 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.



Галоўны корпус Нясвіжскага замка. У гэтым замку каля чатырох стагоддзяў вялі бяздзейнае, гуляшчае жыццё магнаты Радзівілы. Зараз тут знаходзіцца санаторый «Нясвіж», у якім лечацца і адпачываюць працоўныя Беларускай ССР. Рэпартаж з БССР чытай на стар. 2.

## НАРАДЖЭННЕ ПЕСНІ

— Наш гурток мастацкай самадзейнасці існуе ўжо многа год. Яшчэ ў 1956 г. мы паставілі ў сваёй вёсцы п'есу Янкі Купалы «Паўлінка». Гэта было сапраўднае свята для ўсіх аднавяскоўцаў і для суседзяў... Падумаць толькі, пасля доўгіх год людзі пачулі на вясковай сцэне родную беларускую мову, мову вялікага паэта і драматурга, — успамінае Якуб Куршэль з Сукавіч на Сакольшчыне.

А потым, і цяпер?

Гурток мастацкай самадзейнасці ў Сукавічах рос, магутнеў. Песні і пастаноўкі п'ес у яго выкананні радавалі цэлую аколіцу. Слава яго нясецца амаль па ўсёй Сакольшчыне. (Як харавой секцыі, таксама і драматычнай). Апошні раз я бачыў самадзейнікаў з Сукавіч на народным фестыне ў Паўночным Востраве. Натоўп народу, моладзь і старэйшыя. Гучна, як у вулеі. Здавалася, што сабраных нічога не супакоіць. Але, калі выступілі самадзейнікі з Сукавіч са сваім песенным рэпертуарам, дык маўклівая радасць запанавала сярод сабраўшыхся. А пасля кожнай песні доўга працягваліся бурныя воплескі. І тут, у прыватнасці, адчувалася гэтую вялікую сілу ўздзеяння роднага слова, роднай песні.

Нядзеля. Далёка за поўдзень. У Сукавічах на вуліцы расселіся старэйшыя. Гутараць, успамінаюць былое, гамоняць. Праз гоман ледзь чутна даносіцца песня. Прыслухоўваюся. Потым набліжаюся ў напрамку, адкуль даходзяць яе словы. Старая хата, адчыненыя вокны. Прыпамінаю, што тут жыве Якуб Куршэль. Так, яго хата. Чуецца басісты голас, які паўтарае некалькі разоў адно і тое ж, а потым меладыйнае, гучнае «Эх, бярозы ды сосны, партызанскія сёстры...» Галасы заліваюцца заікваюцца, а песня нясецца, нясецца. У сэрцы пакідае неабмежаваную радасць. Падыходзіць старушка і разам са мною слухае, захапляецца. Родная песня кранае яе да слёз і яна, адыходзячы, кідае словы:

— Ох, і дзякаваць нашаму Якубу, што не забывае ён пра моладзь.

(Працяг на стар. 5)

## ПЕРШЫЯ МАГІСТРЫ БЕЛАРУСКАЙ ФІЛАЛОГІІ

12 ліпеня на Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта быў святочны настрой. Шэсць выпускнікоў беларускай філалогіі — літаратараў: В. Амельяньчук, М. Врублеўскі, У. Федарук, А. Карпюк, М. Кіньдзюк і П. Анапюк прыступілі да абароны сваіх магістэрскіх прац у праф. М. Лазарука.

Двух выпускнікоў - моваведаў — А. Багроўская і Я. Галубоўскі ў пачатку ліпеня баранілі свае працы ў кіраўніка Кафедры беларускай філалогіі праф. А. Яблонскай і праф. З. Штібэра.

Магістэрскія экзамены прайшлі паспяхова. Апошнія шчаслівыя хвіліны ва універсітэце завяршыліся супольным сталом. Напоўніліся віном чаркі. Адбыліся традыцыйныя тосты, кароткія прамовы, пажаданні новым магістрам усяго найлепшага.

І мы жадаем маладым магістрам аддаць усе здабытыя веды беларускаму насельніцтву, з якога яны выйшлі і ў карысць якога павінны працаваць. Шчаслівай дарогі ў вашым новым, самастойным жыцці, дарагія сяброўкі і сябры!

(ВШ)

# БЕЛАРУСЫ НА ЛЮБУСКАЙ ЗЯМЛІ

Як на тэрыторыі ўсёй краіны таксама і на тэрыторыі Зялёнагурскага ваяводства нялёгкімі былі некалькі гадоў пасля вызвалення. Разбураныя дзеяннямі вайны прамысловасць і сельская гаспадарка патрабавалі шмат каштоўных намаганняў з боку ўлады і вялікага ўкладу працы насельніцтва. Жыхары Любускай Зямлі няглелзячы на рэвізіяністычную заходненямецкую прапаганду аб «павароце» старых польскіх зямель на захадзе краіны да «будучай нямецкай імперыі выбранцаў свету», не шкадавалі сваіх рук, будавалі сабе шчаслівае заўтра, павялічвалі багацці сваёй радзімы. Зараз Зялёнагурскае ваяводства мае, акрамя прамысловасці, добра развітую сельскую гаспадарку, асабліва на базісе дзяржаўных рольных гаспадарак (ПГР).

На Любускай Зямлі пражывае шмат беларусаў. Супольная радзіма стварыла тут ім магчымасці ўсебаковага развіцця. Найбольш беларусаў працуе ў сельскай гаспадарцы, у дзяржаўных рольных гаспадарках. На прыкладзе жыцця некалькіх сем'яў хачу паказаць усім чытачам «Нівы», як жывуць беларусы на Любускай Зямлі.

Сям'я Капыловічаў пражывае ў ПГР Слонск, Слубіцкага павета. Яна атрымала ў 1957 г. памяшканне ў новым памяшкальным доме. Матэрыяльны бок жыцця Капыловічаў вельмі добры. Маюць усяго пад дастаткам: нядрэнна зарабляюць. Іх дзеці вучацца, здабываюць веды і прафесіі.

Капыловічы маюць двух сыноў і дачку. Віктар закончыў 7-класную школу ў Зэльве. У 1958 г. паступіў у чыгуначны тэхнікум у Познані. У верасні ён пачне ўжо навуку ў чацвёртым класе тэхнікума. Віктар з'яўляецца найлепшым вучнем і мае вялікае паважанне сярод сваіх сяброўак і сяброў. Другі сын Капыловічаў, Олек, у Зэльве закончыў 9 клас агульнаадукацыйнай школы. Ён захацеў быць настаўнікам. Але навука ў педагагічным ліцэі ў Осне Любускім давалася яму не зусім добра, слабавата ведаў польскую мову. Олек пакінуў педагагічны ліцэй і пачаў працаваць. У час працы ў павятовым бюро страхавання ў Слубіцах паступіў у вечаровую школу. Цвёрдасць характару і імкненне здабыць сярэднюю адукацыю дапама-

(Працяг на стар. 4)

## РОДНЫЯ КРАЯВІДЫ



Жніво ўжо закончылася. Засталося толькі звезці жыта ў клуні.

Фота: Ян Мазурэк



Марыя Жалудок любіць адпачываць на прасторным полі.



Олек на канікулах.

беларускай мове. На забавах, вяселлях і хрэсьбінах не сціхаюць беларускія песні. Нашы песні карыстаюцца вялікай папулярнасцю сярод суседзяў — палякаў. У святочныя вечары сабіраюцца людзі на ганках і лаўках таксама як на Беларусі. Гутараць, расказваюць пра мінулае, што надта цікавіць моладзь.

У любускіх беларусаў захаваліся звычаі абрадавага характару. Напрыклад, у час вяселля ў модзе каравай, вітанне хлебам соллю, загароджванне дарогі маладым у час вяртання са шлюбу.

*

Аднак самае важнае тое, што Беларусы на Любускай Зямлі чуюцца «як дома». Ніхто нікога тут не крыўдзіць. Усе адчуваюць тут супольнасць радзімы, народнай Польшчы.

**Францішак Кавалеўскі**

# ДАРОГІ ВЯДУЦЬ У СВЕТ

Дарога — акно ў свет. Паколькі людзі зараз у нас не злюбілі сядзець толькі ў сваёй вёсцы, а хочуць быць у свеце і ведаць пра свет, таму і запатрабаванне на дарогі ўзрасло непамерна. І так людзі ўзяліся за дарожныя чыны, за будову сабе дарог. Захацелі спалучыць свае вёскі з гарадамі. У Сямяціцкім павеце ўсё больш і шырэй пракладаюцца дарогі ўздоўж і ўпоперак. Раскажу вам дзе і якія дарогі ў Сямяціцкім павеце пабудаваны, а якія яшчэ будуюцца.

Сямяцічы — Толвін — 12 км. — пабудаваная грамадскім чынам. Многа працы ўлажыла грамадская рада Бацікі (праз яе тэрыторыю праходзіць дарога) і вёска Толвін.

Мельнік — Сутно — 6 км. Да Сутна ўжо ходзіць аўтобус. У пабудове гэтай дарогі многа дапамагло Мельніцкае прадпрыемства тэрэновай прамысловасці.

Гэтае ж самае прадпрыемства выдатна дапамагае зараз у будове 3-кіламетравай дарогі з Вайкова ў Мельнік.

У доказ падзякі для Мельніцкага прадпрыемства за дапамогу Аддзел камунікацыі ў Сямяцічах пастанавіў пабудаваць яму кусок дарогі, патрэбнай для вывазкі глінкі (каб не вывозіць яе акружной дарогай). Зрэшты само прадпрыемства выгаспадаравала для гэтай мэты 300 тыс. зл. і выслала свае машыны да працы пры пабудове гэтай дарогі.

Малінова — Чорна — Чае — дарога будуецца. І найбольшы ўклад працы дае вёска Сямёны са сваім энергічным солтысам Чэславам Адамскім на чале. Ён меnавіта быў інспіратарам, каб у вёсцы Сямёны выбрукаваць вуліцу і далей брукаваць дарогу.

Чорна Вялікая — Чорна Сярэдняя — 3,5 км. Да канца засталося зрабіць 1,4 км. Пачатак дала тут Чорна Вялікая, таксама выбрукаваўшы найперш сваю вуліцу, пацягнулася і далей — у бок Чорнай Сярэдняй.

Замінова будуе дарогу да Далубова — 2,6 км.

Грамадская рада нарадовая ў Мілейчыцах заатакавала дарогі Мілейчыцы—Андрыянкі і Мілейчыцы — Рагачы — па 6 км. кожны адрэзак. Зрабіла таксама земляныя працы для пракладу дарогі Паканева — Харашчэва. Мілейчыцкая грамада ў мінулым годзе была на першым месцы ў грамадскіх дарожных чынах. Ці ўтрымае яго ў гэтым годзе — невядома. Вядома — другое — мае зараз грозных сапернікаў у многіх мясцовасцях павета.

На тэрыторыі надбужанскай грамадскай рады нарадовай Перлева сяляне ўмацняюць пясчаныя дарогі глінай.

Пад Пішчаткай чынам збудавана мост вартасцю ў 183 тыс. злоты.

Упамянутая на пачатку вёска Агароднікі пабудавала жвіроўку — 3 км. ад сваёй вёскі да Клекатова. Акно ў свет адкрылася.

Усе гэтыя дарогі пабудаваны і будуюцца чынам. Толькі за 5 месяцаў гэтага года вартасць чыну ў Сямяціцкім павеце перавышае 3,5 мільёна злоты.

За 7,5 мільёна дзяржаўных злотых будуецца (ўжо на выканчэнні) 18-кіламетровая дарога з Мілейчыц у Клюковічы — дарога важная і патрэбная. Будзе закончана ў гэтым годзе. Да Клюковіч паедзем аўтобусам.

**вл**

# Растуць рады ПАРП

Яшчэ некалькі гадоў таму назад на тэрыторыі Дуброўскага павета вельмі мала было членаў партыі. За апошні час значна павялічылася партыйная арганізацыя павета. Зараз на Дуброўшчыне маецца 38 пярвічных партыйных арганізацый, да якіх належыць 533 членаў і кандыдатаў партыі. Калі ўзяць пад увагу колькасць усяго насельніцтва Дуброўскага павета (28 260 асоб), дык бачым, што партыйная арганізацыя не малая. Асабліва буйны рост партыйных радоў на Дуброўшчыне назіраецца сёлета. У гэтым годзе ў рады кандыдатаў ПАРП прынялі тут 108 асоб. Большасць з іх — гэта маладыя земляробы, настаўнікі і члены ЗМВ.

(вб)

# Нараджэнне песні

(Працяг са стар. 1)

*

У хаце Якуба Куршэля нарадзіўся мастацкі гурток, ён быў яго заснавальнікам і да сённяшняга дня з'яўляецца яго «прафесіянальным» і духовым кіраўнікОм. Яго такім зрабіла любоў да роднага слова, роднай песні, сваёй моладзі ў Сукавічах. Ад пачатку заснавання гуртка ўсе пачынанні ў падрыхтоўцы рэпертуару адбываліся ў хаце Якуба Куршэля. Нават і цяпер, хаця ў Сукавічах пабудавана святліцу, большасць рэпетыцый праводзіцца ў доме кіраўніка, бо моладзь надта прывыкла да гэтай хаты. Куршэль з'яўляецца старшынёю гуртка БГКТ і гэта таксама дапамагае яму наблізіцца да моладзі.

*

«Музыкальная сям'я», так гаворыцца аб Куршэлях у аколіцы. І гэта поўнасцю апраўдваецца. Якуб пражыў ужо 60 год і, пачынаючы ад 14 год жыцця, не расстаецца з музычнымі інструментамі.

— Першым маім інструментам была балалайка. Я набыў яе ў Расіі ў 1914 годзе. Якая вялікая радасць валодала тады мною, не хапае зараз слоў на яе акрэсленне, — успамінае Якуб Куршэль...

Цяпер Куршэль мае, акрамя балалайкі, гітару, мандаліну і раяль. На кожным з гэтых інструментаў ён цудоўна іграе. Якуб Куршэль, хаця не малады, але добра яшчэ спявае. У вольны ад працы на гаспадарцы час ён іграе на сваіх інструментах і спявае. Музыкальнымі з'яўляюцца таксама яго дочкі Надзя і Ніна. Калі Надзя не была яшчэ замужняй, дык часта акампаніравала бацьку на раяле.

Любімых песень Я. Куршэль мае шмат. Акрамя сучасных, бадзёрых, жыццерадасных песень ён вельмі любіць рамансы. Ды не толькі любіць. Ён жа сам шмат іх склаў у сваім жыцці. Іх спяваюць у аколіцы. Вось некаторыя з іх: «Туман спусціўся над ракою», «Ой, сумна, сумна на сэрцы», «Не баюся цябе», «Пачуў, як гітара станала». Дзядзька Якуб любіць таксама гумарыстычна - сатырычныя песні. Незабыўным наведвальніку застаецца ў выкананні Куршэля куплет з «Дудкі беларускай» пры акампанеменце гітары.

Важным застаецца той факт, што Якуб Куршэль свой музыкальны і арганізатарскі талент поўнасцю аддае сваёй моладзі. Гэта, у сваю чаргу, мае вялікі ўплыў на фарміраванне культурнага аблічча не толькі аднавяскоўцаў, але і жыхароў аколіцы.

**М. КУРАШ**



Якуб Куршэль з жонкай ад'язджае ў поле.
фота В. Леўчук

# Дом культуры уласнай працай

За апошнія гады ў Бельскім павеце на вёсках «вырасла» многа святліц. Выраслі яны з грамадскага чыну, і гэта заслугоўвае на найбольшую пахвалу. Зразумела, грамадскія чыны знайшлі добрую падтрымку маральную і некаторую грашовую дапамогу дзяржавы, у даным выпадку Павятовай рады нарадовай у Бельску.

З прыемнасцю называю гэтыя вёскі.

Святліцы ўжо пабудаваны ў вёсках: Любешчы, Немыя, Зомбкі, Андрыянкі, Выганова, Давідавічы.

Святліцы будуюцца (некаторыя выканчваюцца): у Райках, Крывой, Крывяцічах, Патоцы, Спешыне, Карпу.

Вёскі, якія плануюць пачаць будову яшчэ ў гэтым годзе: Каменны Двор — ПГР — маюць сабраных грошай паўмільёна злотых, звезены камень, жвір; Гліннік, Кальніца, Пасека.

Цікавым з'яўляецца факт, што гэтыя вёскі не будуць будаваць святліц, а вясковыя дамы культуры. Дамы такія будуць выгаднейшыя і прыстасаваныя да развіцця ўсебаковай культурнай працы на вёсцы.

Яшчэ пра вёскі Бельшчыны. Не для пахвалы назваць хачу такія з іх: Малешы, Шпакі, Кожына, Зубава. Вёскі гэтыя, як і другія, вырашылі будаваць і ў сябе святліцы. Атрымалі дазвол, дакументацыю. Малешы, напрыклад, зрабілі выкап пад фундамент, і на гэтым канец. Відаць палічылі, што нехта ім павінен пабудаваць. Як было ўжо сказана, Павятовая рада нарадовая памагае, але там, дзе бачыць здаровую ініцыятыву і **задавальняючы ўклад уласнай працы вёскі.**

У Малешах, Кожыне ці Зубаве святліца, безумоўна, прыдалася б. Ці будзе яна — залежыць толькі ад гэтых вёсак. Наша думка — лепш позна, чым ніколі, і гэты дэвіз прыпамінаем Кожыну, Малешам, Зубаве, Шпакам.

Рэферат культуры Прэз. ПРН у Бельску аказаўся дбайным апекуном вясковай культуры. Аж у Варшаве знайшоў тыповыя праекты вясковых дамоў культуры, якія каштуюць (праекты) толькі 150 зл.

З дазволу Рэферату культуры Прэз. ПРН у Бельску падаем адрас установы, дзе можна набываць такія праекты: Biuro Projektów Wzorcowych Budownictwa Wiejskiego, Warszawa, ul. Wspólna 30.

Радзім скарыстаць з услуг гэтай установы і іншым паветам і ўсім грамадскім камітэтам будовы.

Раім таксама пашукаць (даецца бясплатна) невялікую кніжку «Dom kultury własną pracą» — параднік - інфарматар для грамадскіх камітэтаў будовы культурных аб'ектаў. Выдавецтва: Міністэрства культуры і штукі — Дэпартамент культурна - асветнай працы і бібліятэк — Варшава.

Кніжачка падае розныя тыпы вясковых святліц і дамоў культуры, а таксама — што вельмі важна, раіць, з чаго можна будаваць — падае розныя мясцовыя матэрыялы. Ніжэй падаем праект аднаго з такіх вясковых дамоў культуры, які знойдзе застасаванне



пры будове ў вышэй упамянутых вёсках Бельшчыны. Танна і хутка там праект атрымаеце.

### НЕКАТОРЫЯ КЛОПАТЫ

Адзін з іх — справа грошай для Рэферату культуры ў Бельску на падтрымліванне грамадскіх чынаў. У 1960 г. Прэзідыум ПРН у Бельску прызнала на гэта паўмільёна злотых з надвыжак бюджэтных. У гэтым годзе надвыжак не аказалася і Рэферат культуры выступіў да Фінансавага аддзела ВРН у Беластоку з просьбай прызнаць (толькі) 300 тыс. зл. на падтрымку грамадскіх чынаў. Бельск не атрымаў нават пісьмовага адказу на сваё прашэнне. І здагадайся, моў, чаму.

Другі клопат звязаны з Рэфератам геадэзіі мясцовага Аддзела сельскай і лясной гаспадаркі. Справа ў тым, што Рэферат гэты робіць т. зв. вырысы для будовы святліц (вызначае граніцы будовы), і на выкананне вырысу вёска вымушана часта чакаць станоўча доўга. Хочацца верыць, што ў далейшым Рэферат геадэзіі будзе з большай клапатлівасцю адносіцца да Рэферату культуры і грамадскай ініцыятывы; што супрацоўніцтва гэтых дзвюх устаноў наладзіцца.

**ВЕРА ЛЕЎЧУК**

# МНОГАПАКУТНІЦКАЯ ІСПАНІЯ



Палымяныя словы Далорэс Ібарury, сакратара камуністычнай партыі, запальвалі сэрцы іспанскіх патрыётаў.

18 ліпеня 1936 года іспанскі народ пачаў збройную барацьбу за сваю свабоду і незалежнасць супраць фашысцкіх мяцежнікаў. Грамадзянская вайна ў Іспаніі — адна з самых трагічных і адначасова гераічных старонак у гісторыі гэтай многапакутніцкай краіны.

25 год таму назад на абарону рэспублікі паўстаў увесь рабочы клас, сялянства і працоўная інтэлігенцыя. У першых радах абаронцаў дэмакратыі знайшліся камуністы, якія пад лозунгам «Но пасаран» («яны не пройдуць») аб'ядналі народ у яго барацьбе з фашысцкай рэакцыяй.



Энрыке Лістэр — камандзір слаўнага камуністычнага Пятага палка, потым дывізіі, праславіўшыхся ў баях пад Мадрытам, на берагах Эбра.

Удзельнічаючы ва ўрадзе Народнага фронта, камуністы прынялі на сябе асноўную цяжкасць барацьбы за рэспубліку. На ўсіх участках фронта яны былі ў першых радах і змагаліся да апошняй кроплі крыві ў баях у Гвадалахоры, пры легендарнай абароне Мадрыта, у лістападзе 1936 года.

Верныя пачуццям пралетарскай салідарнасці на дапамогу іспанскаму народу прыйшлі дабраводьцы з іншых краін. Змагаючыся ў інтэрнацыянальнай брыгадзе, яны разам з іспанскімі патрыётамі паказалі цуды гераізму. Пралівалі сваю кроў на іспанскай зямлі і дабравольцы з нашай краіны. Перш за ўсё хочацца ўспамянуць генерала «Вальтэра» — Караля Сьвярчэўскага.

Міжнародныя рэакцыйныя сілы, у першую чаргу гітлераўская Германія і фашысцкая Італія ўтапілі ў крыві іспанскую рэспубліку. У гэтым ім дапамаглі англа - французскія і амерыканскія «героі» палітыкі «няўмешвання», крывавыя глашатыя з «заходняй дэмакратыі і свабоды».



Муж і жонка — яны разам у адным батальёне б'юць ворагаў.

Упадак іспанскай рэспублікі за шэсць месяцаў да пачатку другой сусветнай вайны падбадзёрыла Гітлера. Асляпленыя нянавісцю да камуністаў урады заходніх краін, грэбуючы бяспечнасцю сваіх народаў рабілі ўсё, каб даць германскаму фашызму магчымасць пачаць агрэсію. Іспанская трагедыя была прэлюдыяй другой сусветнай вайны.

## ВІЗІТ У МАНГОЛІІ

Польская партыйна-урадавая дэлегацыя нядаўна наведала Манголію . прыняла ўдзел у святкаванні 40-годдзя Мангольскай народнай рэвалюцыі. Дэлегацыя спаткалася з цёплым прыёмам мангольскага ўрада і народа. На здымку: Уладзіслаў Гамулка, кіраўнік польскай дэлегацыі, як найважнейшы госць у час прыёму згодна з мангольскім звычаем раздзяляе барані кумпяк. У гэтым момадце кладзе кусок на талерку прэм'ера Ю. Цыранкевіча.









Паветраны парад у гонар Дня Паветранага Флоту СССР, які адбыўся 9 ліпеня ў Маскве ў Тушына, з'явіўся вялікім святам сілы і магутнасці савецкай авіяцыі. Асаблівае зацікаўленне выклікалі новыя тыпы самалётаў і незвычайныя мадэлі верталётаў: вагонаў, кранаў, вязучых, між іншым, гатовыя дамы. Да аднаго з верталётаў быў падчэплены карабель «Усход», на якім Юры Гагарын пабываў у космасе. Аб гэтым парадзе да сённяшняга дня многа гавораца на Захадзе.

## УСЯКАЯ ЎСЯЧЫНА

■ У час буры ў Лапло (Францыя) маланка ўдарыла ў стада авечак. Усе чорныя авечкі былі забіты, а белыя засталіся зусім непашкоджанымі.

■ У мясцовасці Канагва непадалёк Токіо японская паліцыя выкрыла тройку гандляроў жывым таварам. Як выказала следства прадалі яны 224 дзяўчыны да тайных публічных дамоў, у вядомых курортных мясцовасцях. Цана дзяўчыны хісталася ад 10 да 13 фунтаў стэрлінгаў.

■ З недахопу медыцынскай дапамогі ў Бразіліі штогод уміраe 150 тысяч цяжарных жанчын.

■ Заходненямецкая фірма самаходаў Мэрцэдэс прыпаднесла Рымскаму папе Янаві XXIII падарак у постаці аўтамашыны, якой задняе сядзенне без цяжкасці можна замяніць на амбону.

■ Зараз СССР мае 233 тысяч жанчын інжынераў, 300 тысяч жанчын лекараў, больш 1 300 тысяч жанчын настаўніц і 129 тысяч жанчын навуковых работнікаў.

■ Адзін фермер з Айова павесіў жакет на агароджу. Цёлка, якая была непадалёк, зжавала кішэнь, у якой знаходзіўся залаты гадзіннік. Праз сем год гэтая карова закончыла сваё жыццё на бойні.

У час разбірання каровы быў знойдзены гадзіннік. Ён папаў у такое месца, дзе пры дыханні лёгкія паварочвалі галоўку гадзінніка і такім чынам бесперапынна заводзілі яго. За сем год гадзіннік спазніўся толькі на чатыры мінуты.

 




**У заходняй Нямеччыне рашылі даць пенсіі былым СС-аўцам.**



**— Не ведаеце, калега, ці за дасягненні ў экстэрмінацыі будуць нейкія дадаткі?**




### ЧАГО КУЛЬГАЕ

— Чаго кульгаеш?

— Зуб баліць.

**Янка Зданоўскі**
Альхоўка

### ДОБРЫ ПАДАРАК

— Найлепшым падаркам, які атрымаў ад цябе, гэта трубка, — кажа шасцігадовы Вася свайму дзядзьку.

— Чаму трубка? — здзівіўся дзядзька. — Я ж табе даў шмат лепшых забавак.

— Трубка найлепшая, бо тата дае мне кожны дзень па 10 злотых, каб я толькі не трубіў, — адказаў Вася.

**Віктар Сцепанюк**
Давідавічы

### ГАЛОДНАЯ

— Ну, як табе на новым месцы? — пытае адна кухарка другую.

— Не зусім добра, я заўсёды галодная.

— Чаму?

— Горш навару, сама не магу есці. А лепш навару, дык рабочыя ўсё з'ядзяць.

**Ірэна Цэкала**
Сапава

### АГАРОДНІК І МЕДНІК

Майстар меднік купляў у агародніка капусту. Ён стаў хваліць, што сёлета параслі вялікія галоўкі капусты.

— Э, гэта яшчэ малыя, — сказаў агароднік. — Аднойчы я вырасціў галоўку велічынёй як дом.

— Веру, — сказаў меднік. — Пры добрым доглядзе можна вырасціць такую. А я аднойчы змантаваў кацёл, вялікі як царква.

— Не веру, — сказаў агароднік. — Хлусіш і нават не чырванееш. Скажы, навошта табе такі велізарны кацёл?

— Я хацеў зварыць тваю галоўку капусты, — адказаў меднік.

**Аляксандр Макаль**
Крушыняны



**Спішацца няма чаго.**

# ДЗІРАЧКІ

Сяджу я аднойчы ў акне і думаю, як тут абняць неабдымнае. Вецер дуе мне ў вуха і думкі развейвае. Не звычайна ён дуе, а проста абражальна свішча гэты вецер. Я туды, сюды разглядаюся, акно аглядаю — нідзе нічога не відаць. Адкуль дуе вецер — сам чорт не разбярэ. Тут паглядзеў я ў корань і адразу знайшоў шчылінку ў аконнай раме. Ды не простую, а самую сапраўдную дзірку, праз якую вецер нахальна ўрываўся, блытаючы мае думкі. Зразумела, што ў хаце сабраўся сямейны калектыў, каб абмеркаваць справу шчылінкі і яе ліквідацыю.

Дзядок прапанаваў стварыць камісію для пераліку ўсіх шчылінак і планавага іх затыкання яшчэ ў гэтай пяцігодцы. Галава хаты — жонка, востра патрабавала неадкладнай ліквідацыі шчылінак, зараз жа ў час іх выкрыцця. Заканапацілі мы ватай дзірачку ў аконнай раме так, што цяпер ніякі вецер не прарвецца. І хоць гэтая індывідуальная дзірачка ліквідавана, я ўсё думаю над грамадскімі дзірачкамі.

Вось, напрыклад, у нашым ГС. Учот пастаўлены на вышыні, быццам пажарная каланча. Аддзел кантролю ёсць, рахункаводства — таксама. Над імі старшыня з намеснікамі наглядаюць. Адным словам ніякай шчылінкі для машэннікаў у ГС няма.

Усё ж такі кладаўшчык знайшоў дзірачку і цэлы год карыстаўся ёю. Дзірачка была невялічкая, а выдула праз яе грамадскую суму — 100 тысяч з гакам. Нядаўна гэтую дзірачку заткнулі, кладаўшчыка заканапацілі, але ўбыткаў не вярнулі.

Падобнымі справамі нашыя суды завалены. А гэта таму, што некаторыя кіраўнікі, замест догляду над даверанай ім маёмасцю, стараюцца абняць неабдымнае.

Няпэўныя элементы (а іх у нас хоць адбаўляй!) бяздзейнасцю такой карыстаюцца і вышукоўваюць дзірачкі для выпампоўвання грамадскіх сродкаў. Чалавек, наогул, падобны да каўбасы. Ніхто ж не разгадае, чым гэтая каўбаса ці чалавек начынены. Таму дазволю сабе прыпомніць адказным працаўнікам аб жыццёвай мудрасці Кузьмы Пруткова. Таварышы начальнікі! Часцей заглядвайце ў корань! Не забывайце, што певень прачынаецца рана, а злодзей яшчэ раней.

*Дзядзька Левон*




**ДЫСТАНЦЫЙНА КІРАВАНЫ.**



**Без слоў**



**Без слоў**

### ПЯЎКІ

— Ці памаглі мужу п'яўкі?

— Памаглі. Адну ён з'еў сырую, а іншыя мусіла варыць.

**Віктар Баран**
Палічна

# МАЕ СУСЕДЗІ

Ёсць у мяне, добрыя людзі, дзіўныя суседзі. Яны штодзённа па некалькі разоў мяне лаюць. Гэта было б нічога, калі б было за што. А то проста за маё мі... ды пацешнае каштанаваценькае жарабятка. На мой погляд, як я, так і маё жарабятка ні ў чым тут не вінаваты. Праўда, маю яшчэ і авечкі. Але на авечак я і сам злую, не то што суседзі. Яны, падлы, як нанятыя лезуць не толькі на суседавы, але і на мае пасевы. Ну, і скажыце, добрыя людзі, што для такой авечкі скажаш, калі яна дурная. Нават прымаўка ёсць — дурны як авечка, а дурному, вядома, нічога не зробіш. Праўда, некаторыя людзі свае авечкі бяруць на ланцугі, быццам сабак і гоняць на пашу. Але ці ж гэта добра? Дзе ж там. Ад ланцуга на шыі ў авечак воўна нішчэе. А зрэшты, хто калі бачыў авечкі браць на ланцуг? А на жарабятка? Ну, як на яго злаваць, калі яно такое мілае. Сядзеш сабе каля клуні і глядзіш, як яно бегае. Проста радасць бярэ за сэрца ад захаплення. Часам яно прыйдзе да мяне, каб яго пачухаць і аж шыйку выцягне. Потым, падняўшы свой пышны хвосцік, бяжыць да Рамана Фірсовіча ў агарод. А там па капусце сваімі ножкамі скача, аж лісточкі хрупаюць. Потым агурчыкамі забаўляецца ці іншай гароднінай. Глядзець міла. У Міколы Мацкевіча растуць каноплі. Яно і туды забяжыць. Канопелькі зялёныя, а жарабятка каштанаватае — які ж цудоўны малюнак! Вачэй не адвядзеш! Ходзіць яно быццам па лесе і мушкі ганяе. Часам забяжыць да Наталлі Белазовіч у лянок, але і для ільну ніякае шкоды не зробіць, бо яго і так потым у мялку трэба пускаць. І за што ту... яго праклінаць? Яно ж ніякай шкоды не робіць, а проста спортам займаецца. Суседзі клянуць мяне і сварацца, але я ўжо на гэта ніякай увагі не звяртаю. Бо калі б гэта было раз ці два, то паслухаць прыемна. А гэта ж здараецца амаль штодня і няма часу, каб прыслухоўвацца праклёнам. Калісь я раіў суседзям, каб яны зракліся гаспадарак, не сеялі і не аралі, то для майго дабытку было б больш раздолля, а ім ніякай шкоды. Але яны і слухаць не хочуць. То скажыце, добрыя людзі, як я маю іх слухаць? Не цэлы ж год яны на суседавым ходзяць, бо зімою я свой дабытак у хлеўчыку трымаю.

Іншая справа, калі гусі гэтых суседзяў прыдуць на мой панадворак. З чужымі гусіма я не люблю вазіцца. Я іх проста пазабіваю, а потым выкіну на вуліцу, і справе канец. Мне за гэта ніхто нічога не зробіць — я ж на сваім. Ну, а ўжо чужыя парасяты — проста гадасць! Таму я з імі ніколі інакш не забаўляюся, як толькі калом. Калі ўжо якое і ўцячэ, дык доўга не пажыве. Верце мне, людцы добрыя, на гэта мая рука лёгкая. За гэта ніхто не павінен на мяне гневацца, бо кожны ж абавязаны сваю гадзіну трымаць на сваім загаджаным панадворку, а не чужым карыстацца.

Мо' і ў вас, дарагія чытачы, здараюцца такія суседзі, то парайце мне, як вы жывеце з імі — бо я ніяк не магу.

**Мікалай Фірсовіч**
Відава

 